Кніганоша
ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
№ 24
люты, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ АЎТОГРАФ

# Ігар БАБКОЎ: «Паэзія ніколі не знікае...»

**– Шаноўны спадар Ігар, кнігу «Адам Клакоцкі і ягоныя цені» лічаць першым беларускім постмадэрнісцкім раманам, у якім можна заблукаць (з якога няма выйсця). Ваша новая кніга «Хвілінка» – таксама лабірынт, з якога няма выйсця?.. Распавядзіце пра новую кнігу.**

– Валянцін Акудовіч на адной з прэзентацый сказаў, што Клакоцкі распачынае лінію другой прозы. І што гэтую лінію працягнулі толькі «Трынаццаць гісторый пра мёртвага ката» Наталкі Харытанюк. Што ён меў на ўвазе пад другой прозай, я спадзяюся, ён нам яшчэ патлумачыць.

Але тут мы маглі б, разам з Паўлам Касцюкевічам, назваць гэты тып літаратуры літаратурай не для ўсіх. Гэта значна больш адэкватнае азначэнне, чым элітарная літаратура, альбо інтэлектуальная літаратура ці нават (хаця мне гэта найбліжэй) – метафізічная. Бо творцы і чытачы гэтага тыпу літаратуры зусім не абавязкова эліта. Наадварот, паколькі ў нашую эпоху нішу эліты імкнуцца заняць бізнесоўцы альбо людзі медыяў, дык літаратура не для ўсіх – гэта бадзягі, дэрвішы, інтэлектуалы, – андэграўнд у самым непасрэдным сэнсе.

Гэты тып літаратуры не мае агульных стылёвых альбо канцэптуальных арыенціраў. Ён супрацьстаіць літаратуры для ўсіх, альбо літаратуры фарматнай. Крыху гэта падобна да апазіцыі між Галівудам і аўтарскім кіно.

Літаратура не для ўсіх – гэта кнігі, якія шукаюць свайго чытача, – чытача з пэўнай формай душы, з пэўнымі, больш тонкімі – а можа, проста іншымі – эмацыйнымі рэакцыямі на рэальнасць.


фота Аляксандра ЖДАНОВІЧА.

Хвілінка, такім чынам, не проста працягвае лінію «Клакоцкага», а, у пэўным сэнсе, па-сапраўднаму распачынае яе. Гэта той самы «недапісаны раман» – пра эпохі, пра залаты пыл часу, якім я трызніў ад канца васьмідзясятых і які, у сваёй неадбытасці, здавалася, перайшоў у статус персанальнага міфа. І ўсё ж такі я да яго вярнуўся (ці ён вярнуўся да мяне), увосень 2009 года ў Берліне. Вярнуўся і чакана і нечакана.

Структурна кожная частка – амаль аўтаномная гісторыя, малая аповесць, фрагмент паэтычнага эпасу пра эпоху. Але ўзятыя разам, з'яднаныя агульнымі героямі і прапанаванымі абставінамі, яны ўтвараюць метараман. Што яшчэ важна – гэта адкрытая структура, без традыцыйных для рамана канцоў і пачаткаў. Так, як няма пачатку і канца ў часу і ў часе. Час становіцца не проста фонам, дэкарацыямі, а самадастатковым суб'ектам гэтых гісторыяў.

Вядома, іх можна чытаць паасобку, як аповесці позняга Сэлінджэра. Каб не прапусціць асобнае. Але потым можна і нават трэба скласці гэта ўсё ў адно. Пры гэтым існуе ясная інтрыга, скразная драматургія, якая сшывае гэтыя гісторыі. Голас аўтара, тры персанажы, Хвілінка – менская кавярня, што рэальна існавала ў васьмідзясятых.

*(Працяг на стар. 7)*

**Даведка «Кніганошы»:**

**Ігар Бабкоў – паэт, празаік, філосаф, перакладчык. Аўтар кніг «Solus Rex» (1991), «Герой вайны за празрыстасьць» (1998), «Адам Клакоцкі і ягоныя цені» (2001), «Засынаць, прачынацца, слухаць галасы рыб» (2009) і інш. Нарадзіўся ў 1964 годзе ў Гомелі. Жыве ў Мінску.**

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Шаўчэнка Тарас. Мастак: Да 200-годдзя з дня нараджэння Тараса Шаўчэнкі. Укл. і пер. В. Стралко. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 204 с.**

Гэтая кніга прысвечана 200-годдзю Тараса Шаўчэнкі, паэта, мастака, філосафа, адраджэнца ўкраінскай нацыі. Выйшаўшы з самых нізоў тагачаснага грамадства, ён падняўся да сусветных вяршынь прызнання. У кнізе чатыры раздзелы. У першым – навуковы аналіз жыцця, творчасці і светапогляду Кабзара. Другі ўтрымлівае асобныя паэтычныя творы класіка ўкраінскай літаратуры. У трэцім змешчана адна з яго найлепшых аповесцяў «Мастак». Завяршае кнігу шэраг выказванняў вядомых творцаў і палітыкаў пра Тараса Шаўчэнку. Пераклаў усе раздзелы кнігі з украінскай і рускай мовы на беларускую вядомы майстар мастацкага перакладу Валерый Стралко.




**Алексіевіч Святлана. Час second-hand (Канец чырвонага чалавека). Пер. В. Стралко, Ц. Чарнякевіч. – Мінск: Ловінаў, 2013. – 384 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 46).**

«Час second-hand» – новая кніга вядомай пісьменніцы Святланы Алексіевіч, апошняя з серыі, прысвечанай «гісторыі вялікай і страшнай Утопіі – камунізму»: Вялікая Айчынная вайна, Афганістан, Чарнобыль і, нарэшце, развал сацыялістычнай імперыі... Кніга перакладзена на многія еўрапейскія мовы і ўжо атрымала прэстыжныя прэміі нямецкіх кнігадрукароў і французскіх медыя.

У прадмове аўтар піша: «За семдзясят з лішкам гадоў у лабараторыі марксізму-ленінізму вывелі асобны чалавечы тып – «homo soveticus». Адны лічаць, што гэта трагічны персанаж, іншыя называюць яго «саўком». Мне здаецца, я ведаю гэтага чалавека, ён мне добра знаёмы, я побач з ім, поплеч, пражыла шмат гадоў. Ён - гэта я. Гэта мае знаёмыя, сябры, бацькі. Некалькі гадоў я ездзіла па ўсім былым Савецкім Саюзе, бо homo soveticus – гэта нетолькі рускія, але і беларусы, туркмены, украінцы, казахі. Цяпер мы жывем у розных дзяржавах, размаўляем на розных мовах, але нас ні з кім не зблытаеш...»




**Дэбіш Анатоль. Зірні ў люстэрка: вершы, містэрыя. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 232 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 48).**

У новую кнігу паэта Анатоля Дэбіша ўвайшлі напісаныя напрацягу амаль дваццаці апошніх гадоў выбраныя вершы і драматычная паэма «Уваскрэсенне Іуды», у якіх аўтар віртуозна спалучае старадаўняе фальклорнае хараство з пластыкай сучаснага паэтычнага пісьма.




**Палац: літаратурны альманах. Гомель. Укл. А. Бароўскі, Г. Лапацін. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 272 с.**

Літаратурны альманах Гомельскага аддзялення грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» «Палац» на сваіх старонках змяшчае прозу, паэзію, успаміны, а таксама гістарычныя і літаратуразнаўчыя матэрыялы, прысвечаныя жыццёваму шляху і спадчыне знакамітых творцаў гомельскай зямлі. У першым нумары альманаха прадстаўленыя як творы сталых пісьменнікаў, так і найлепшыя ўзоры спробаў пяра маладых літаратараў.




**Уайлд Оскар. Саламея: п'еса, вершы прозай. Пер. і прадм. Кацярыны Маціеўскай. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 92 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

Апроч знакамітай п'есы «Саламея», аздобленай ілюстрацыямі Обры Бёрдслі, кніга ўключае стылістычна блізкія да яе вершы прозай Оскара Уайлда. Артыкул Роберта Роса апісвае першыя пастаноўкі п'есы і абвяргае асноўныя міфы, з ёй звязаныя. Усе змешчаныя ў кнізе пераклады друкуюцца ўпершыню.




**Оаро Кацярына. Сарочае радыё: Лісты падзякі: аповесць. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 94 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютная кніга Кацярыны Оаро – шчырая і эмацыйная аповесць пра жыццё маладой дзяўчыны, якая працуе журналісткай. Гісторыя здзіўленняў і расчараванняў, сталення і асабістага выбару ў пазнавальных дэкарацыях сучаснага Мінска.




**Гапееў Валер. Праклён: раман. – Мінск: Галіяфы, 2013. – 546 с.**

Першы беларускі раман пра сучаснасць, у якім містычнае і міфалагічнае адваеўвае свае права на існаванне ў рэчаіснасці і робіцца неад'емнай часткай нашага жыцця. Пакутлівыя пошукі выхаду з-пад улады Праклёну прыводзяць да неабходнасці паверыць. У рамане выяўляюцца тыя сілы, якія ўпарта адносіліся да міфічных толькі таму, што адным не хапала моцы паверыць і прыняць відавочнае, а другім хапала розуму і ўлады выдаваць сапраўднае за казкі і легенды.



**Бабкоў Ігар. Хвілінка: тры гісторыі. – Мінск: Ловінаў, 2013 – 232 с. – «Галерэя Б».**

Гэта гісторыя пра адну менскую кавярню. Расповед пра трох герояў, якія патрапляюць у яе напрыканцы васьмідзясятых і адтуль не выходзяць. Тры сябры: паэт, змагар, спявачка. Кожны з іх, пражываючы эпохі, трымаецца свайго выбару. Паэт застаецца сярод шаманства словаў. Змагар ідзе да канца, хаця й разумее, што ў гэтым спектаклі больш няма за што змагацца. Спявачка хоча знайсці музыку кону і з ёй супасці.

З іншага боку, ёсць другі план. Метафізічны. З гэтай перспектывы перад намі – алхімічная гісторыя пра mysterium coniunctionis, магічны тэатр душы, персанажы якога прыбраныя ў вопратку часу. Раман пра месцы, у якія мы патрапляем, і месцы, у якіх мы застаемся.



**Ткачоў Васіль. Варона: кніга прозы. – Гомель: Барк, 2013. – 276 с.**

Новую кнігу Васіля Ткачова, вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэміі імя Васіля Віткі, склалі аповесці «Скачы ад печы, жэўжык!», «Мішэнь» і «Дзед Аўгей і дзеці», а таксама апавяданні, жыццёвінкі і гумарэскі, напісаныя ў апошні час. Лёгкі стыль пісьма, іронія і дасціпны гумар, уласцівыя гэтаму пісьменніку, прысутнічаюць, безумоўна ж, і ў творах, што склалі гэтае выданне.

Аўтар з сыноўняй любоўю і цеплынёй піша пра людзей, на долю якіх выпалі нялёгкія жыццёвыя выпрабаванні. Яго героі – людзі простыя, на першы погляд, сціплыя і нічым не прыкметныя, але калі трэба, яны гатовы пастаяць не толькі за сябе, але выручыць з бяды іншых, падставіць сваё плячо ў цяжкую хвіліну, падаць руку. Васіля Ткачова называюць майстрам сюжэта. Яго творы справядліва карыстаюцца заслужаным поспехам у чытачоў.



**Белы Аляксей. Прыватны сектар: паэтычны зборнік. – Брэст: Альтэрнатива, 2013. – 120 с. іл.**

Чарговая кніга Аляксея Белага невыпадкова атрымала назву «Прыватны сектар». Пажыўшы пэўны час у шматпавярховіках, аўтар стала атабарыўся ў невялікім дамку недалёка ад чыгуначнай станцыі Баранавічы-Цэнтральныя. У зборніку шмат вершаў пра радзіму, блізкіх людзей, каханне.



**Буланда Вера. Сараматніца: інтымная лірыка. – Мінск: Выд. В.Хурсік, 2013 – 344с.: іл.**

Кнігу склалі вершы аўтара і пераклады на беларускую мову некаторых вершаў рускіх паэтаў: Эдуарда Асадава, Ларысы Васільевай, Валянціны Восіпавай, Ніны Дзябольскай, Дзіны Злобінай, Аліны Легастаевай, Міхаіла Лермантава, Фёдара Цютчава і Паўла Казлова. Змешчана кароткая біяграфія аўтара і шэраг сямейных здымкаў.



**Чэх Сватаплук. Пад засенню ліпы: паэма-эпапея. – Мінск: Зміцер Колас, 2013. – 144 с.: іл.**

У сваёй паэме-эпапеі аўтар намаляваў шырокую панараму жыцця Чэхіі пачатку XIX стагоддзя, паказаўшы, як тады людзі жылі, як працавалі, чым цікавіліся, пра што марылі, як любілі і кахалі, з чаго смяяліся і з чаго сумавалі. Гэты выдатны твор стаў настольнаю кнігай у кожнай чэшскай сям'і, і нездарма з часу свайго напісання (1879 г.) ён перавыдаваўся ў Чэхіі больш за сорак разоў.



**Выспяньскі Станіслаў. Вяселле: драмы. Пер. з нямецк. Лявона Баршчэўскага. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 208 с.**

У кнігу ўвайшлі дзве найбольш вядомыя драмы польскага паэта, драматурга і мастака Станіслава Выспяньскага (1869-1907) – «Вяселле» і «Варшавянка». Штуршком да стварэння п'есы «Вяселле» паслужыла рэальнае вяселле вядомага ў канцы XIX стагоддзя польскага паэта і драматурга Люцыяна Рыдэля і вясковай дзяўчыны Ядвігі Мікалайчык з вёскі Малыя Бранавіцы, а сярод запрошаных гасцей быў і Станіслаў Выспяньскі. Большая частка герояў драмы мае сваіх рэальных прататыпаў. Побач з імі ў п'есе дзейнічае група фантастычна-містычных персанажаў. П'еса «Варшавянка» – мастацкае ўзнаўленне аднаго з эпізодаў паўстання 1830–1831 гадоў на землях былой першай Рэчы Паспалітай, якое ў польскай традыцыі прынята называць Лістападаўскім.



**Ільючык Мікола. Цуд на Каляды: апавяданне; мастак Яўген Шунейка. – Брэст: Хрысціян. місіянер. т-ва «Благавест» Саюза ЕХБ у Рэсп. Беларусь, 2013. – 24 с.: іл.**

Кніжачка складаецца толькі з аднаго апавядання. У ёй пануе дабрыня, міласэрнасць, спагада. Дзякуючы добраму чалавеку збываюцца мары маленькай дзяўчынкі. Кніга будзе цікавай для маленькіх і дарослых чытачоў. Адмысловыя ілюстрацыі да апавядання зрабіў вядомы мастак Яўген Шунейка.



**Няўвесь Алесь. Кукіш у кішэні: вершаваныя фельетоны. Мастак Алег Гуцал. – Смоленск: Універсум, 2014. – 400 с.**

Чарговая кніга Алеся Няўвеся, як зазвычай, своеасаблівая творчая справаздача за год, на гэты раз – за 2013. З новымі і ранейшымі фельетонамі аўтара можна пазнаёміцца на сайце: www.alesnauwes.com.

# «Мы выраслі сярод катаў і ахвяр...»

**18 лютага ў мінскай крэатыўнай прасторы «ЦЭХ» адбылася прэзентацыя беларускай версіі кнігі Святланы Алексіевіч «Час second-hand». Твор пабачыў свет у серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў, у выдавецтве «Логвінаў». Над перакладам працавалі Валер Стралко і Ціхан Чарнякевіч.**

Сустрэча выклікала вялікую цікавасць публікі і журналістаў, бо ў Беларусі кнігі нашай славутай зямлячкі не выходзілі і не перакладаліся ўжо гадоў пятнаццаць. І творчыя сустрэчы са Святланай Аляксандраўнай у нас – таксама рэдкасць. Цягам дзвюх з паловай гадзінаў можна было задаць пытанне аўтарцы і дазнацца пра многае – пачынаючы ад галоўнай ідэі «Часу second-hand» і заканчваючы поглядам спадарыні Святланы на будучыню Беларусі. Фрагменты з кнігі можна было пачуць у выкананні Народнай артысткі Беларусі Зінаіды Бандарэнка. Мадэратарам сустрэчы выступіў празаік, старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў», галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч.

– Твор «Час second-hand», як магістрал у вянку санетаў, з'яўляецца галоўным і ўвабраў у сябе ўсе тэмы папярэдніх кніг аўтаркі: «У вайны не жаночае аблічча», «Цынкавыя хлопчыкі», «Апошнія сведкі» і «Чарнобыльская малітва».

Астатні раз кніга Святланы Алексіевіч выходзіла па-беларуску ў Беларусі ў 1999 годзе, прычым малым накладам, і з той пары не было ні выданняў, ні выступаў, акрамя ўдзелу пісьменніцы ў кніжных кірмашах. Таму сённяшняя сустрэча ўнікальная, як і адметная сама Святлана Алексіевіч, якая заўсёды імкнецца пачуць і запісаць «хор галасоў сучаснікаў», – адзначыў Барыс Пятровіч і перадаў слова аўтарцы.

Вашай увазе – самыя цікавыя выказванні Святланы Аляксандраўны ў форме маналогу.

**«Вырвацца з зададзенай спрошчанасці»**

– Нават не верылася, што гэтая кніга па-беларуску калі-небудзь выйдзе. Здавалася многія гады, я пісьменнік дзесьці, а не ў Беларусі. Справа не ў татальным страху або ціхім канфармізме – усё залежыць ад канкрэтнага чалавека. Адзін дырэктар школы тэлефануе і просіць кнігі, а іншы баіцца згадваць нават імя. Насамрэч шмат сярод нашых людзей і гордых, і нязломных, якія змаглі вынырнуць з палону страшных ідэй, з адчаю, застаўшыся людзьмі.

Пра сябе гаварыць складана, бо любы пісьменік стамляецца сам ад сябе. Маючы ўкраінска-беларускія карані, дзяцінства я правяла ў вёсцы, дзе панавала жабрацтва, і ўсе гаварылі пра смерць – і ў Беларусі, і ва Украіне, таму сталець і радавацца жыццю было цяжка. Ужо з пяцігадовага ўзросту я ведала, што буду пісаць, і калі настаў час,



паступіла на факультэт журналістыкі. Там жа некалі вучыўся і мой бацька, праўда, адтуль ён пайшоў на фронт.

Тады складана было вызначыцца з каштоўнаснымі арыенцірамі. 1970-я гады – зусім глухі час, плоскі чорна-белы свет, маса рэчаў і з'яў, маса кніг былі закрытыя, недаступныя. Мы сталі закладнікамі спрошчанага погляду на свет, і задачай было – вырвацца з зададзенай спрошчанасці. У гэтым сэнсе я часта ўспамінаю маю ўкраінскую бабулю, якая расказвала пра чырвонаармейцаў і пра немцаў, і здавалася б: як можна шкадаваць немцаў і бачыць у іх людзей? Якраз гэта і пашырала мой светапогляд. Бо сэрца павінна быць здатнае да любові. Чалавек, які піша, мусіць бачыць «каляровага» чалавека і паказваць яго. Няма хімічна чыстага зла, яно вельмі раскіданае, яно жыве нечаканымі момантамі.

Алесь Адамовіч – беларускі Вацлаў Гавэл. Шкада, што Алесь мала пражыў і не паспеў стаць для нашага народа тым, кім стаў для чэхаў Вацлаў Гавэл. Мне пашчасціла пабачыць у асобе Адамовіча чалавека, які вырваўся з сістэмы, які вучыўся ў Талстога, Дастаеўскага, Чэхава. Чалавека еўрапейскага складу, які як настаўнік даў болей, чым увесь універсітэт, «паставіў» мне «машыну мыслення», як спеваку ставяць голас.

**«У нас застыў, спыніўся час»**

Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч ускладалі вялікую надзею на змену пакаленняў. Дачакаліся новага пакалення, але нічога не адбылося – па-ранейшаму культура насілля, па-ранейшаму апантаныя ідэямі, упартыя людзі, у якіх «гарачь» вочы. Аднак нянавісць ніколі не выйграе.

Пятая кніга падвяла вынікі і вывела мяне да тэмы «рэстаўрацыі» ў Расіі. У нас спыніўся час – капіталізм, сацыялізм і імператарства – усё разам, але і «рэстаўрацыя» прыйдзе і да нас у Беларусь.

Камунізм сышоў, застаўся чалавек, які не ведае, як жыць, а ёсць толькі «кухонныя» ўяўленні пра жыццё. Пра свабоду не можа быць гаворкі, пакуль каштоўнасць жыцця ацэньваецца ў капейку.

Нават калі гляджу на Кіеў, бачу тое самае. Калі многія рэчы высветліліся, то становіцца страшна. Свабодных людзей няма. Свабоду зробіш не на вуліцы, а ўнутры чалавека, – вось дзе адбываецца самае галоўнае, барацьба дабра са злом, як казаў яшчэ Дастаеўскі. А калі душа пустая, то пабяжыш на вуліцу з сякерай.

**«Варта вырасці са свайго гора»**

Гэтую кнігу пісала гадоў 15, апытала каля 500 чалавек. Ёсць харавыя кавалкі, а ёсць доўгія аповеды. Бывае, што запісваю некалькі дзён. Адзін аповед можа пісацца і паўгода. Успамінаю, як ствараліся «Цынкавыя хлопчыкі». Была ў Кабуле, бо калі пішаш, то мусіш быць шчырым, павінен ісці да канца. Давялося пабачыць і смерць, і кроў, відовішча было настолькі жудасным – страчвала прытомнасць. Памятаю, як мяне папярэдзілі, што могуць папросту выстраліць у спіну, калі не буду асцярожнай у выказваннях. Тады стала ясна, якая гэта страшная вайна.

Атрыманыя дыктафонныя запісы я доўга асэнсоўвала, каб зрабіць з гэтага мастацтва. Безумоўна, дакументальнасць у чыстым выглядзе – нешта зусім іншае, чым літаратура.

**«Ідзі, не бойся душы чалавека, але будзь там, як у храме»**

Я не асаблівы чалавек, і ў маёй прафесіі няма нічога звышадметнага. Але мая прафесія ўключае ў сябе сумленнасць. Магла і не ехаць у Кабул, але калі ты хочаш сумленна зрабіць сваю справу, то, як казала мая бабуля, «ідзі, не бойся душы чалавека, але будзь там, як у храме». Да сваіх апавядальнікаў я прыходжу як просты чалавек. Калі гавару з тымі, хто пераЖыў вайну, то закранаю тэмы, пра якія ім хочацца пагаварыць, пра што нельга гэтым суразмоўцам падзяліцца ні са сваякамі, ні з афіцыйнымі прадстаўнікамі. Як гаварыць з чарнобыльцамі – ведаю па ўласна пераЖытым досведзе.

Патрэбныя чалавечая шчырасць і давер. Нашыя людзі ўмеюць гаварыць захаплянльна два разы ў жыцці – у каханні і ля смерці. І я застаю чалавека ў гэтым стане.

**«Моцны інтэлектуальны ўплыў»**

Сярод літаратурных уплываў магу назваць стыль і мову Міхася Стральцова, творы Янкі Брыля, Вячаслава Адамчыка, метафізіку Кузьмы Чорнага, Віктара Казько. Некалі ўразіў Рэмарк, пасля лацінаамерыканская літаратура – Маркес, асабліва Картасар і Борхес – самы моцны інтэлектуальны ўплыў.

Часта задаюць пытанне пра выбар мовы – чаму руская, і чаму ў кнізе «мы» як Беларусь і Расія разам. Заўсёды тлумачу, што пісала гісторыю чырвонай утопіі – тады гэта было «мы», адна агромністая краіна, дзе не было падзелу, дзе бытавала фактычна адна мова. Да таго ж, я запісвала гісторыі ад людзей з усёй Расіі, не толькі Беларусі.

Часам з беларушчынай ходзяць як з аўтаматам, успрымаюць яе як спосаб спрасціць сабе жыццё. Маем мы і мяккасць, і разуменне рэчаў, талерантнасць. А ў той жа час – ад нянавісці, ад правакацыйных выказванняў, абвінавачанняў у прэсе гэта не ратуе.

**Запісала Віка Трэнас,**
**фота Алены Казловай.**

## НАВУКА/ПУБЛІЦЫСТЫКА/ДАВЕДНІКІ




**Хаценчык Зміцер, Канецкі Дзяніс. Падзеі паўстання 1863 г. на Вілейшчыне: гістарычныя нарысы. Выд. 2-е, дапрац. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 76 с. – (Серыя «Такая гісторыя.)**

Гэта кніга – спроба найбольш поўна і праўдзіва адлюстраваць падзеі 1861–1864 гадоў, якія адбываліся ў межах цяперашняга Вілейскага раёна (тагачасны Вілейскі павет быў значна большы па плошчы) напярэдадні паўстання, падчас яго і адразу пасля паўстання.




**Чыгрын Сяргей. Іншых шляхоў не было: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 240 с.**

Кніга Сяргея Чыгрына складаецца з пяці раздзелаў. У першым аўтар распавядае пра тых людзей, якія змагаліся за Беларусь, і пра тых, якія дапамагалі беларускай культуры, гісторыі, літаратуры. У другім ідзе гутарка пра беларусаў Беласточчыны. У трэцім аўтар спыняецца на гісторыі Слонімшчыны. У чацвёртым – расказвае пра цікавыя выданні, якія пабачылі свет у апошнія гады ў розных выдавецтвах. У пятым раздзеле надрукаваны гутаркі з Аляксеем Пяткевічам, Аленай Васілевіч, Вячаславам Рагойшам, Лідзіяй Арабей і іншымі вядомымі асобамі.




**«Асоба і час». Беларускі біяграфічны альманах. Выпуск 5. Уклад. Аляксандр Фядута. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 346 с.**

У пятым выпуску альманаха «Асоба і час» чытач сустрэнецца з Янам Баршчэўскім, Напалеонам Ордам, Зоськай Верас, Міхасём Стральцовым, Кастусём Акулам ды іншымі вядомымі беларусамі. Асобны раздзел прысвечаны святарам – мітрапалітам Станіславу Богушу-Сестранцэвічу, Мельхісэдэку, Мікалаю, а таксама ксяндзу Сільвестру Бабіновічу.

Сярод аўтараў – вядомыя даследчыкі гісторыі і культуры Беларусі Анатоль Сідарэвіч, Лявон Юрэвіч, Наталля Гардзіенка, Міхась Скобла, Таццяна Процька, Ціхан Чарнякевіч, Леанід Лаўрэш, Дзяніс Лісейчыкаў ды інш.




**Някляеў Уладзімір. Знакі прыпынку. Прадм. Віктара Казько; уклад., камент. Сяргея Шапрана. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 372 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Кніга Уладзіміра Някляева «Знакі прыпынку» – гэта біяграфія душы. Аўтар падараваў нам нават не кнігу, а самога сябе, запрасіўшы нас у свет сапраўднага паэта, сучаснага літаратара, сённяшняга беларуса.




**Лаўрэш Леанід. «І зорнае неба над галавой...»: нарысы з гісторыі астраноміі. – Мінск: Лімарыус, 2013.**

У кнізе разглядаецца гісторыя навуковай астраноміі. У першай частцы гэтай кнігі сістэмна выкладзена развіццё астраноміі ў Віленскім універсітэце і ў дадатках да першай часткі зроблена спроба паказаць працу Віленскай абсерваторыі ў кантэксце тагачаснай навукі. У другой частцы расказваецца аб астраномах XIX–XX стст. – выхадцах з Беларусі і іх унёску ў развіццё гэтай дасканалай навукі. Кніга будзе карыснай для чытача, які цікавіцца гісторыяй развіцця прыродазнаўчых навук ці беларускай мінуўшчынай: настаўнікам і вучням агульнаадукацыйных школ, краязнаўцам, навукоўцам, выкладчыкам гісторыі і студэнтам.




**Голубеў В. Ф. Гісторыя Беларусі – даты, падзеі, асобы: інфармацыйна-метадычны дапаможнік. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 176 с.**

Прыведзены даты важнейшых падзей гісторыі Беларусі ад старажытнасці да сённяшніх дзён, звесткі пра знакамітых людзей, звязаных з гісторыяй нашай краіны, іншыя гістарычныя факты. Выданне будзе карысным для абітурыентаў, школьнікаў і студэнтаў, а таксама для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Бацькаўшчыны.




**Марціновіч Алесь. Уладзіслаў Сыракомля. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Францішак Кандратовіч; 1823–1862) – выдатны беларускі паэт, перакладчык, крытык, фалькларыст і краязнаўца. Яго творчасць, цесна звязаная з народнымі вераваннямі, звычаямі і вуснай народнай паэзіяй, прыкметна паўплывала на фармаванне беларускай літаратуры новага часу. Творчая спадчына У. Сыракомлі не ўмяшчаецца ў дзесяць тамоў, хоць у літаратуры ён працаваў толькі 18 гадоў.




**Шумская Ірына. Ян Чачот: Руплівы філамат. – Мінск: «Харвест», 2013. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Ян Чачот (1796–1847) – паэт, публіцыст, фалькларыст, краязнаўца, сябра легендарнага Таварыства філаматаў, адным з першых пачаў руйнаваць міф пра «беднасць і немілагучнасць» беларускай мовы. Ягоная прага да асветніцтва, адстойванне ідэяў незалежнасці роднага краю, справядлівасці і роўнасці правоў для ўсіх людзей могуць служыць годным прыкладам для сучаснікаў.




**Деды: дайджест публикаций о беларуской истории. Выпуски 1-5. Составление, научное редактирование А. Е. Тараса. – Минск: Харвест, 2013. – 944 с.**

«Деды» – дайджэст публікацыяў па беларускай гісторыі – выдаецца больш за чатыры гады. Яго першы выпуск выйшаў у свет 13 мая 2009 года, а на гэты час выдадзеныя ўжо 12 выпускаў. З 6-га выпуска (красавік 2011 г.) тыраж дайджэста падняўся да тысячы экзэмпляраў, з 11-га (сакавік 2013 г.) – да дзвюх тысяч. Аднак тыражы першых пяці выпускаў не перавышалі 200 экзэмпляраў. Таму выдавецтва «Харвест» вырашыла перавыдаць іх нармальным тыражом, аб'яднаўшы ў адным томе.




**Літоўская палітычная думка, канец XIX – пачатак XX стст. Укладанне: Андрэй Казакевіч; навук. рэдактар: Томаш Блашчак. – Мінск: Медысонт, 2013. – 320 с. + [6] л. іл.**

Анталогія складаецца з перакладаў на беларускую мову тэкстаў, напісаных заснавальнікамі і найбольш значнымі прадстаўнікамі літоўскага нацыянальнага руху канца XIX – пачатку XX стагоддзя. Прапанаваныя тэксты даюць выразнае ўяўленне пра ідэі, мэты і патрабаванні літоўскага руху, а таксама дазваляюць зразумець яго культурную і палітычную аснову. На думку складальнікаў анталогіі, вывучэнне ідэй літоўскага нацыянальнага руху з'яўляецца неабходным для глыбокага разумення гісторыі Беларусі і Цэнтральна-Усходняй Еўропы. Выданне разлічанае на гісторыкаў, палітолагаў, прадстаўнікоў іншых дысцыплінаў, а таксама выкладчыкаў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі, Літвы і Цэнтральна-Усходняй Еўропы.




**Рудкоўскі Пётр. Вялікі выбух у малой Галілеі . – Мінск: Логвінаў, 2013. – 102 с. – (Бібліятэка «Беларускі калегіюм»).**

Што здарылася на мяжы «старой» і «новай» эры? Што сабой уяўляў духоўны і культурны клімат у грэка-рымскім і іўдзейскім свеце ў часе публічнай дзейнасці Ісуса Хрыста? Як фармаваўся Новы Запавет і як выглядаў канон веры першых хрысціянаў? Што сабой уяўляла ekklesia (царква) у першых стагоддзях? Як фармаваліся асноўныя ідэі і паняцці, якія пачалі з цягам часу ўтвараць дактрынальны корпус хрысціянства? Як выглядалі дачыненні ранняга хрысціянства з элінскай, рымскай ды іншымі культурамі? Гэтым і падобным пытанням прысвечаны гістарычна-філасофскі роздум «Вялікі выбух у малой Галілеі».




**Барыс Сымон, Рогач Анатоль. Нарачанка і яе берагі. – Мінск: Зміцер Колас, 2013. – 712 с. [8 л.] іл.**

Асновай для напісання кнігі паслужылі архіўныя звесткі пра эканамічнае развіццё і дэмаграфічнае становішча Нарачанскага краю ў мінулым, старадаўнія кнігі па гісторыі, кнігі па геаграфіі і вывучэнне сучаснага гаспадарчага развіцця вёсак. У кнізе расказваецца пра прыроднае асяроддзе ракі Нарачанкі, пра мінулае і сучаснае жыццё жыхароў гэтага маляўнічага краю. У ёй змешчана шмат ілюстрацыяў – каляровых і чорна-белых, даўніх і сучасных.




**Мажэйка Зінаіда Якаўлеўна: да 50-годдзя навуковай і творчай дзейнасці. Уклад. Т. Якіменка, Т. Бярковіч. – Мінск: Тэхналогія, 2013. – 141 с., [10] арк. іл.; партрэт.**

Кніга прысвечана навуковай і творчай дзейнасці выдатнага беларускага этнамузыколага і этнакінематаграфіста, доктара мастацтвазнаўства, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі, лаўрэата міжнародных прэміяў. Тут пададзены храналагізаваны паказальнік працаў навукоўца, водгукі пра іх вядучых спецыялістаў, інтэрв'ю, храналогія публікацыяў у прэсе і даведкавая літаратура пра юбіляра. Распачынае кнігу створаны І. У Саламевічам нарыс навуковай і навукова-практычнай дзейнасці З. Я. Мажэйкі.




**Лобач Уладзімір. Міф. Прастора. Чалавек: традыцыйны культурны ландшафт беларусаў у семіятычнай перспектыве. – Мінск: Тэхналогія, 2013. – 510 с.**

Манаграфія прысвечана семантыцы і рытуальнай функцыянальнасці базавых элементаў традыцыйнага культурнага ландшафту беларусаў як прыроднага, так і антрапагеннага паходжання ў сістэме іх узаемасувязі і ўзаемаабумоўленасці. На падставе шырокага кола этнаграфічных, фальклорных, лінгвістычных крыніцаў ахарактарызаваны касмаганічныя заканамернасці фармавання і касмалагічныя параметры жыццёвай прасторы беларусаў, якія знайшлі сваё ўвасабленне ў міфапаэтычнай карціне свету і адлюстраваныя ва ўсіх праявах традыцыйнай духоўнай культуры этнасу. Асаблівая ўвага ў даследванні адведзена феномену сімвалічнай трансгранічнасці ў структуры культурнага ландшафту і тэмпаральным аспектам яго функцыянавання. Прааналізавана інфармацыйная прагматыка элементаў культурнага ландшафту ў рамках традыцыйнай супольнасці, і ў прыватнасці функцыя аб'ектывацыі лакальнай гісторыі ў кантэксце гісторыі агульнаэтнічнай. У кнізе шырока скарыстоўваюцца матэрыялы палявых этнаграфічных даследаванняў, праведзеных аўтарам у перыяд 1992–2012 гг.

■ ПОГЛЯД

# Лабірынтамі даўніх падзей




**Ісці на святло лабірынтамі даўніх падзей: зборнік памяці Віталя Скалабана; уклад. А. Сідарэвіч, А. Фядута, М. Шумейка. – Мінск: Лімарыус, 2013. – 500 с.**

Кніга прысвечаная ўшанаванню памяці пра беларускага гісторыка, археографа і архівіста Віталя Скалабана (1947–2011). Аўтары зборніка дзеляцца ўспамінамі пра яго, паказваюць чытачам уклад у развіццё гістарычнай навукі Беларусі, знаёмяць з творчай спадчынай даследчыка.

Ва ўступнай частцы кнігі змешчаныя верш Людмілы Рублеўскай «Віталю Скалабану» і «Балада Віталя Скалабана» Віктара Шніпа, артыкулы Міхаіла Шумейкі і Мікалая Ількевіча, у якіх даюцца агульныя характарыстыкі яго як гісторыка, даследчыка. Упершыню публікуецца складзены бібліёграфам Таццянай Рошчынай спіс асноўных друкаваных працаў Віталя Уладзіміравіча (больш за 500 пазіцыяў).

Большую частку зборніка займаюць два раздзелы: «Чалавек на сваім месцы» і «Лабірынтамі даўніх падзей». У першым з іх друкуюцца ўспаміны пра В. Скалабана. У раздзеле «Лабірынтамі даўніх падзей» надрукаваныя арыгінальныя працы гісторыкаў з Беларусі, Польшчы, Расіі ды Украіны, якія датычаць у асноўным гісторыі Беларусі XIX–XX стст.

У заключнай частцы друкуюцца водгукі на кнігу Л. Рублеўскай і В. Скалабана «Время и бремя архивов и имён».

Гэтая кніга дапаможа захаваць памяць пра Віталя Уладзіміравіча, падштурхне працягнуць пачатае знакамітым гісторыкам, вывучаць жыццёвы шлях і багатую навуковую спадчыну даследчыка.

**А.С.**

■ АЎТОГРАФ

# «Паэзія ніколі не знікае...»

*(Пачатак на стар. 1)*

Зрэшты, адказ на «простае» пытанне, пра што раман, я абачліва падрыхтаваў і размясціў на вокладцы. Вось аўтарская формула: «Гэта гісторыя пра адну менскую кавярню. Расповед пра трох герояў, якія патрапляюць у яе напрыканцы васьмідзясятых і адтуль не выходзяць.

Тры сябры: паэт, змагар, спявачка. Кожны з іх, пражываючы эпохі, трымаецца свайго выбару. Паэт застаецца сярод шаманства словаў. Змагар ідзе да канца, хаця й разумее, што ў гэтым спектаклі больш няма за што змагацца. Спявачка хоча знайсці музыку кону і з ёй супасці.

З іншага боку, ёсць другі план. Метафізічны. З гэтай перспектывы перад намі – алхімічная гісторыя пра mysterium coniunctionis, магічны тэатр душы, персанажы якога прыбраныя ў вопратку часу.

Раман пра месцы, у якія мы патрапляем, і месцы, у якіх мы застаемся».

**– У адной з эпіфаніяў Вы пішаце: «…Мера мусіць быць абавязкова, бо менавіта мера, рытм, музыка – тое, што дазваляе хаосу прымаць форму паэзіі». Як Вы лічыце, забыўшыся на рыфму, сціраючы межы паміж прозай і паэзіяй, вызначаючы жанр як «тэксты», ці не знікла разам з гэтым сапраўдная паэзія ў вершах маладых творцаў? Магчыма, гэтай самай «меры» і не хапае творам маладых паэтаў. Як Вы ставіцеся да сучаснай беларускай паэзіі?**

– Паэзія ніколі не знікае, і, калі яе шаманы нябачныя шырокай публіцы, гэта пытанне да публікі (і да эпохі), а зусім не да паэзіі.

Пакуль жа найноўшая беларуская паэзія – у яе мужчынскай версіі (?!) – разыгрывае сябе між чатырма творцамі, непадобнымі, а часам і несумеснымі. Гэта Антон Францішак Брыль з неакласіцысцкімі гульнямі ў неаміфалогію, Віталь Рыжкоў, з крыху гламурызаванай слэм-паэзіяй, Ігар Кулікоў з метафізічнымі ўтопіямі (сва)мовы, і Андрэй Адамовіч з кіслотным панк-футурызмам.

У жаночай зоне сітуацыя не менш цікавая, і таксама чатыры заўважныя аўтаркі: Вольга Гапеева, Вальжына Морт, Марыя Мартысевіч, Наста Кудасава.

Паэтычнай меры ім усім якраз хапае. Тое, чаго варта пажадаць, – істотнай эмоцыі. Паэтычнага кону.

**– Наталка Харытанюк (Вашая жонка) таксама творчы чалавек. А па творчым шляху Вы таксама крочыце разам? Ці дапамагаеце адзін аднаму творчымі парадамі, даеце прачытаць толькі што напісаны твор, каб потым падзяліцца ўражаннямі і абмеркаваць?**

– Так, у нас прыўкрасная творчая банда, да якой раз-пораз далучаюцца нашыя сябры: часам Акудовіч з Максімам Жбанковым, часам Ейтс з Паўндам, іншым разам Браян Фрыл з Эліятам Вайнбергерам і Машай Пушкінай.

**– У якім кірунку, на Вашую думку, рухаецца сучасная беларуская літаратура?**

– У кірунку большай складанасці, разнастайнасці, глыбіні і насычанасці ландшафту. Ужо ў пакаленні тутэйшых адбыўся тэктанічны разлом жалезабетоннага калісьці маналіта. Калі мы параўноўваем персанальную міфатворчасць Сыса і гіперрэалізм Глобуса, вытанчаны эстэтызм Тацяны Сапач і Галіны Дубянецкай і паэтычны канструктывізм Юрася Пацюпы, шаманскую метафізіку Ігара Бабкова (г.зн. мяне) і правы авангард Славаміра Адамовіча, мы разумеем, што гэта Борхесавы Сад сцежак, што разыходзяцца ў розныя бакі, і на кожнай нас чакаюць падарункі.

А пасля тутэйшых пачаўся сапраўдны шабас разнастайнасці. Авангардысты і кансерватары, правыя і левыя, гіперрэалісты і метафізікі, дадаісты і сю-сю-рэалісты. Уявіце сабе, што Андрэй Хадановіч і Міхась Баярын, Макс Шчур і Віктар Жыбуль, Альгерд Бахарэвіч і Зміцер Вішнёў, Вера Бурлак і Віктар Марціновіч, – усё гэта творцы з адной эпохі!

**– Якія пытанні вырашае сучасная беларуская філасофія?**

– Філасофія пытанні не вырашае, яна іх ставіць. Не так даўно, у Лятучым універсітэце, я паспрабаваў паставіць пытанне пра саму беларускую філасофію: «Беларуская філасофія сёння – месца сустрэчы пэўнага тыпу мыслення, універсальнага па сваіх памкненнях і амбіцыях, (стара)грэцкага па паходжанні, еўрапейскага па генеалогіях і нормах, і адной з сярэднееўрапейскіх культураў, раздзёртай між посткаланіяльным і постімперскім кантэкстамі.

Абазначым гэтае месца сустрэчы як асаблівы тып памежжа, на якім і з якога мы можам думаць.

Заўважым: сустрэча мае месца і сама ёсць месцам. Сустрэча адбываецца ў пэўным часе.

Эпоха позняй мадэрнасці, калі ўжо «ўсё адбылося»: абяцанні і ўтопіі, заяўленыя і пражытыя.

Калі сама філасофія пачынае бачыць сябе не толькі на скраі мадэрных формаў, але і на скраі філасофіі, а магчыма нават і пасля філасофіі».

## «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Эдуард Дубянецкі. Покліч самотнага неба: вершы, паэма. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 204 с.**

Вершы з новай кнігі паэзіі Эдуарда Дубянецкага вызначаюцца абвостранай пачуццёвасцю, фантазійнасцю, празрыстасцю стылю, жаданнем спасцігнуць складаныя праблемы быцця, пра што яскрава сведчаць многія творы лірычнага, філасофскага, грамадзянскага і (сама)іранічнага гучання. Як і ў яго папярэднім зборніку, тут доўжацца пошукі мастацкай выразнасці ў галіне формы і зместу, строфікі, рытмікі і рыфмоўкі верша. Аўтар прапануе чытачу пазнаёміцца са шматлікімі класічнымі вершаванымі формамі, вядомымі з гісторыі еўрапейскай і ўсходняй (пераважна персідскай) паэзіі. Некаторыя з іх (*бейт, дайна, дойна, дубейці, мураба, мусаба, мусадас, мухамас, шаіры, эклога, эпод* і інш.) упершыню ўводзяцца ў беларускую паэзію. У асобных раздзелах кнігі падаюцца вынайдзеныя аўтарам віды верша, а таксама ягоныя «праменьчыкі» – адмысловая форма паэтычных афарызмаў і мініяцюр.

**Юрась Бушлякоў. Жывая мова. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) – Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2013. – 294 с.**




«Жывая мова» – плён шматгадовае працы мовазнаўцы. Па сутнасці, працы аддзела, калі не цэлага інстытута... «Гучанне слова», «Націскі», «Будова слова», «Формы слова», «Будова фразы», «Выбар слова» – з такіх раздзелаў складаецца кніга. Тут выбудавана адмысловая сістэма з адметным ілюстрацыйным матэрыялам, праз які кніга можа быць надзвычай карыснай як для выкладання, гэтак і для самастойнага вывучэння і дасканалення мовы. У кароткіх эсэ чуецца голас Юрася – шляхетны, далікатны, багаты на розныя адценні... На добры лад, да кнігі мусіла б прыкладацца кружэлка. «Практычныя парады, як правільна і прыгожа гаварыць па-беларуску. Кніга любові» – пазначана на вокладцы. Так і ёсць.




**Чытанка для маленькіх / уклад. В. Вячорка, П. Садоўскі. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 60 с.: іл. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 2).**

«Чытанка для маленькіх» – гэта выдатны падарунак для тых, у каго маленькія дзеці. Кніга змяшчае вершы і казкі, калыханкі і гульнёвыя прыпеўкі для дзетак да трох гадоў. Творы ў чытанцы сабраныя як народныя, так і аўтарскія. Дзеткі могуць смела гартаць гэтую кніжку, бо яна ў цвёрдай вокладцы, а старонкі надрукаваныя на шчыльнай паперы. А гартаць яе яны будуць з сапраўдным задавальненнем, будзьце пэўныя! Выданне аздобленае прыгожымі і яркімі малюнкамі мастачкі Святланы Каньковай-Дударэнка.

## КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга Ноша
№ 24
люты, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 24, 24.02.2014.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com